СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.36, 21.43 20.07;
Віцебск — 4.18, 21.41, 17.23;
Магілёў — 4.26, 21.32, 17.08;
Гомель — 4.32, 21.21, 16.49;
Гродна — 4.53, 21.57, 17.04;
Брэст — 5.03, 21.48, 16.45.

МЕСЯЦ:
Поўня 15 чэрвеня.

ІМЯНІНЫ:
Клаўдзія, Паўла, Дзяніса, Паўлы, Дзмітрыя, Лук'яна; Аліны, Юстыны.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

16 чэрвеня 1992 г.
аўторак, № 119 (21897)



## РОЗГАЛАС

### ВІЗІТ В. КЕБІЧА Ў ШВЕЙЦАРЫЮ

16 чэрвеня Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч адбыў з дзелавым візітам у Швейцарыю. У якасці ганаровага госця ён прыме ўдзел у чарговай сесіі Міжнароднай арганізацыі працы, якая адбудзецца ў Жэневе. Гэта першы выпадак за амаль саракагадовы перыяд членства нашай рэспублікі ў МАП, калі адзін з вышэйшых кіраўнікоў Беларусі запрошаны для ўдзелу і выступлення на пленарным пасяджэнні сесіі гэтай арганізацыі.

Выступленне В. Кебіча чакаецца 17 чэрвеня. Плануюцца таксама сустрэчы і перагаворы беларускага прэм'ера з кіраўніцтвам аддзялення Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Жэневе, іншых важнейшых установ ААН, прадстаўнікамі буйнейшых кампаній і банкаў Швейцарыі.

Затым Вячаслаў Кебіч прыме ўдзел у рабоце міжнароднага сімпозіума «Еўрапейскі дом», які праводзіцца няўрадавай арганізацыяй «Форум універсале» ў горадзе Кран-Мантана. На ім цэнтральнае месца зоймуць пытанні аб становішчы ў краінах СНД, ходзе ажыццяўлення ў іх эканамічных рэформ, праблемы інтэграцыі гэтых краін у сусветную гаспадарчую дзейнасць. Для ўдзелу ў рабоце сімпозіума запрошаны кіраўнікі ўсходне- і заходнееўрапейскіх дзяржаў, Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва, міжнародных фінансавых установ, уключаючы МВФ, МБРР, ЕБРР. Дзелавыя колы на форуме будуць прадстаўлены кіраўнікамі больш як 200 буйнейшых карпарацый, аб'яднанняў, гандлёва-эканамічных кампаній і банкаў. Удзел беларускай дэлегацыі ў сімпозіуме будзе выкарыстаны для ўстанаўлення і расшырэння кантактаў з дзяржаўнымі дзеячамі, прадстаўнікамі свету бізнесу вядучых заходніх краін, азнаямлення патэнцыяльных інвестараў і партнёраў з магчымасцямі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў цікавячых нас галінах.

У саставе дэлегацыі міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка, намеснік старшыні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь В. Радомскі, іншыя афіцыяльныя асобы.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

### Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

9 чэрвеня г. г. пад старшынствам народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча адбылося пленарнае пасяджэнне Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

Разгледзеўшы творы і работы, прадстаўленыя на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1992 года, Камітэт вырашыў дапусціць да ўдзелу ў далейшым конкурсе:

**У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ НА ПРЭМІЮ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ:**

1. **Законнікаў** Сяргей Іванавіч. Заклінанне. Кніга вершаў.

Вылучана калектывам супрацоўнікаў Дзяржаўнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, радай Саюза пісьменнікаў Беларусі і рэдакцыяй часопіса «Нёман».

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**



## ЖЫЦЦЁ І КРАХ «БЕЛАРУСКАГА ГАНДЛЮ»,

### АБО ЯК КІРУЮЧЫЯ АСОБЫ З ГРОДЗЕНСКАГА АБЛСПАЖЫЎСАЮЗА ПРЫВАТЫЗАВАЛІ... КААПЕРАТЫЎНУЮ ЎЛАСНАСЦЬ

**ШТО АБЯЦАЛІ «НАВАТАРЫ»...**

Гэта гісторыя пачалася паўтара года назад, калі ў сістэме Гродзенскага аблспажыўсаюза стварылі новую структуру — камерцыйны цэнтр. Задумкі былі выдатныя. Маўляў, вось яна, тая палачка-выручалачка, дзякуючы якой у вобласць ракой пацякуць дэфіцытныя тавары, сыравіна, абсталяванне.

Праўда, у сувязі з гэтым магло ўзнікнуць заканамернае пытанне: «А навошта, уласна кажучы, ствараць яшчэ адну фірму з функцыямі, аналагічнымі тым, якія ўваходзяць у абавязкі ўжо існуючых звенняў?» Што гэта—элементарнае разбуханне штатаў ці, можа, якасна іншы, нетрадыцыйны падыход да гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасці? Аказалася— ні першае, ні другое.

Кіраўніцтва аптовага аб'яднання аблспажыўсаюза (пры якім і быў створаны камерцыйны цэнтр) звяртаецца ў кантору «Знешгандлю» і на універсальную базу «Белспажыўсаюза» з невялікім, але прынцыповым пісьмом: «Просім імпартныя тавары, што паступаюць для прадпрыемстваў Гродзенскай вобласці за адгружаную на экспарт прадукцыю, адпускаць камерцыйнаму цэнтру...»

Што гэта азначала на практыцы? А тое, што ўвесь паток імпартных тавараў, якія раней паступалі на міжрайбазы вобласці, раптам пераключылі на камерцыйны цэнтр. Такім чынам, палец аб палец не стукнуўшы, ён атрымаў у сваё карыстанне гадамі наладжаныя сувязі. І адразу ж стварылася бачнасць высокай эфектыўнасці работы камерсантаў. Так, летась яны атрымалі 670 тысяч рублёў прыбытку, прычым на падаткі і іншыя расходы накіравалі 85 тысяч, а астатнюю суму пакінулі сабе.

Даволі хутка цэнтру стала цесна пад крылом аптовага аб'яднання аблспажыўсаюза, і ён пераходзіць на самастойны баланс, а яго дырэктар М. Бобрык атрымлівае права першага подпісу ва ўсіх разліковых дакументах. Яшчэ крыху— і чарговае новаўвядзенне: Гродзенскі гарвыканком рэгіструе камерцыйны цэнтр як... дзяржаўнае (?!) арэнднае прадпрыемства (толькі нядаўна рашэнне прызналі памылковым — **Б. П.**). Падзея, без перабольшання, унікальная. І не толькі таму, што калектыў цэнтра нават не абмяркоўваў пытанне аб пераходзе на арэнду. Галоўны парадокс у іншым. Дзе ж гэта відана, каб фірма, створаная выключна на кааператыўныя сродкі, раптам стала дзяржаўным прадпрыемствам, працягваючы з'яўляцца адным з падраздзяленняў аблспажыўсаюза?!

Вось ён, першы крок да адчужэння кааператыўнай уласнасці. Але асноўныя падзеі пачалі разгортвацца ў пачатку сёлетняга года. 30 студзеня 5 з 11 членаў праўлення аблспажыўсаюза (толькі з-за адсутнасці кворуму іх рашэнні неправамоцныя) вырашаюць «пагадзіцца з пратаколам сходу арандатараў камерцыйнага цэнтра (пратакола няма. — **Б. П.**) і прапановай аптовага гандлёвага аб'яднання аб ліквідацыі камерцыйнага цэнтра...» І тут жа ствараецца вытворча-гандлёвая фірма «Беларускі гандаль», якая захоплівае ўсе сродкі камерцыйнага цэнтра (амаль 4 мільёны рублёў).

Акрамя таго, па распараджэнню дырэктара аптовага аб'яднання аблспажыўсаюза А. Квашніна фірма невядома за якія заслугі атрымлівае і іншую кааператыўную уласнасць. Ды яшчэ якую! У магазін «Скупка» на пагранічным пераходзе «Брузгі» проста вымушаны здаваць тавары за сімвалічную цану тыя, каго завярнулі мытнікі. Гандлёвая кропка аб'яднання «Азот» таксама заўсёды пры дэфіцыце, які сюды паступае па бартэру з-за мяжы за адгружаную пры пасрэдніцтве аблспажыўсаюза прадукцыю хімікаў.

Надзвычай шчодры падарунак робіць «Беларускаму гандлю» сваім асабістым распараджэннем і старшыня праўлення аблспажыўсаюза, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь І. Калмычкоў. Ён перадае фірме практычна ўсё, што раней належала аптоваму аб'яднанню, — функцыі гандлёвай дзейнасці, правапераемніцтва ў ажыццяўленні знешнеэканамічнай дзейнасці і штат работнікаў. Пасля гэтага само існаванне аптовага аб'яднання практычна страціла сэнс. Замест яго на ўсім гатовенькім пачынае рабіць бізнес «Беларускі гандаль».

**...І ШТО АТРЫМАЛАСЯ НА СПРАВЕ**

А цяпер — аб самым неверагодным. Створаная на 90—95 працэнтаў за кошт сродкаў спажыўкааперацыі, гэта фірма становіцца па сутнасці... прыватнай. Хто ж яны, піянеры прыватызацыі кааператыўнай уласнасці? Для гісторыі назавём пайменна заснавальнікаў «Беларускага гандлю» (зарэгістраванага Ленінскім райвыканкомам г. Гродна як таварыства з абмежаванай адказнасцю). Гэта старшыня праўлення аблспажыўсаюза І. Калмычкоў, яго першы намеснік М. Семіён, начальнік аддзела аптовага гандлю З. Стопа, былы дырэктар камерцыйнага цэнтра М. Бобрык, а таксама кадры з аптовага аб'яднання — дырэктар А. Квашнін, яго былы намеснік, а цяпер старшыня «Беларускага гандлю» В. Ластоўскі, былы галоўны бухгалтар А. Гаўрусік.

Кампанія, як бачым, падабралася сур'ёзная. Усе пры пасадах, пры ўладзе. Становіцца зразумелым той імпэт, які быў праяўлены некаторымі з іх пры арганізацыі фірмы, перадачы ёй сродкаў камерцыйнага цэнтра, магазінаў і належачых іншым функцый. Дарэчы, фірма адкрывае свае філіялы ў Шчучыне, Смаргоні на базе будаўнічых і аўтатранспартных арганізацый аблспажыўсаюза.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ФАДЫЁ ФАКТ

**Пачынаюць палёты ў гарады Балтыі і краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў лайнеры новай амерыканскай авіякампаніі «Балтыя-Эйрлайнз». Авіякампанія, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Нью-Йорку, будзе кожны тыдзень ажыццяўляць пяць беспасадачных рэйсаў паміж Нью-Йоркам і Санкт-Пецярбургам. У жніўні ў раскладзе палётаў з'явяцца дадатковыя пункты прызначэння Мінск і Тбілісі, куды пасажыры са Злучаных Штатаў будуць дабірацца з перасадкай у Рызе.**

***

Сёлета спаўняецца 90 гадоў з дня заснавання Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Старшыня Цэнтральнай рады цяперашняй партыі такога напрамку доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў нагадаў факты з гісторыі. Трагічным быў лёс заснавальнікаў ранейшай сацыял-дэмакратычнай грамады. Большасць з іх загінула ў сталінскіх турмах. Ужо на пачатку стагоддзя гэтыя людзі марылі аб вольнай незалежнай Беларусі.

Міхась Ткачоў прыгадаў ідэі сацыял-дэмакратызму сённяшняга Захаду. Ён адзначыў, што мы павінны глядзець на свет больш шырока, вучыцца пазнаваць праблемы жыцця і рабіць усё магчымае, каб у нашым доме былі мір і лад. Сацыял-дэмакратычныя ідэі сённяшняй Еўропы знойдуць падтрымку і ў нашай рэспубліцы, — адзначыў ён.

***

**Гэтыя чэрвеньскія дні, здаецца, становяцца пікам паездак за рубеж. На пагранпераходзе «Варшаўскі мост» у Брэсце зноў выстраіліся чэргі даўжынёю ў шмат кіламетраў. У параўнанні з мінулым годам на граніцы зараз створаны сякі-такі сервіс. Але гэтыя паўмеры не забяспечваюць рытмічнага руху праз мяжу. Новыя пагранпераходы, пра адкрыццё якіх так многа гаварылася на ўсіх узроўнях, па-ранейшаму агароджаны калючым дротам.**

***

Абсурдная сітуацыя ўзнікла ў вёсцы Пяршаі — цэнтры калгаса імя Карла Маркса Валожынскага раёна. Згодна з раённай праграмай ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС, год назад у Пяршаях паклалі асфальт, правялі лініі тэлефоннай сувязі, а яшчэ раней водаправод. А вось цяпер настаў час газіфікацыі вёскі. У новых цэнах гэта абыдзецца гаспадарцы ў 4 мільёны 650 тысяч рублёў. І, акрамя таго, прыйдзецца разбурыць дарогі і ўсе камунікацыі. У сувязі з гэтым успомнілася прытча: «Чаму ты бедны, чалавеча? — Бо неразумны. — А чаму неразумны? — Бо бедны».

### ЛЕПШ ПОЗНА, ЧЫМ НІКОЛІ

**ЖЛОБІН. (У. Пернікаў). Тут пабывалі прадстаўнікі міжнароднай неўрадавай арганізацыі ЮНЕСКО. Мэта іх візіту — выбар месца для будаўніцтва адзінага ў рэспубліцы рэабілітацыйнага цэнтра псіхалагічнай адаптацыі насельніцтва, якое пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы.**

**Мяркуецца, што будаўніцтва пачнецца ў гарадскім пасёлку Стрэшын сёлета ў жніўні і закончыцца праз год. На ўзвядзенне гэтага важнага аб'екта бязвыплатна адпушчана 35 тысяч долараў ЗША. Практычныя работы ўжо робяць французскія спецыялісты. Замежжа паставіць неабходнае медыцынскае абсталяванне і на пачатку работы цэнтра забяспечыць усю яго медыкааздараўленчую дзейнасць. У далейшым жа абслугоўваць цэнтр будуць спецыялісты нашай рэспублікі. Падабраны ўжо і генпадрадчык — мясцовы будтрэст № 40. З выпадку гэтага чарнобыльцы кажуць: лепш позна, чым ніколі!**

### ВЫГАДНЫ АБМЕН З БАЛГАРАМІ

Доўгатэрміновае пагадненне на пастаўку рухавікоў балгарскай фірме «Балканкар» заключылі мінскія маторабудаўнікі. У суседнюю краіну ўжо адпраўлена 500, а да канца года туды паступіць яшчэ столькі ж гэтых вузлоў. Узамен па бартэрнаму пагадненню балгары пачалі пастаўляць аўта- і электрапагрузчыкі, электракары і іншую грузападымальную тэхніку, якая славіцца на ўвесь свет. А самае галоўнае—у перспектыве маторабудаўнікі будуць рабіць зборку балгарскіх машын непасрэдна ў сябе на заводзе. Партнёры згадзіліся за мінскія рухавікі пастаўляць сюды камплектуючыя вырабы для зборкі машын, якія зараз даводзіцца купляць за мяжой па цане 13 тысяч долараў. Выпуск аўтапагрузчыкаў маторны мае намер пачаць у наступным годзе на вытворчых магутнасцях філіяла ў Стоўбцах.

**Алег ПРАЦЬКО.**

### ЖЫЛІ-БЫЛІ ДЗЕД З УНУКАМ...



**— Гэта тая прафесія, аб якой я марыў заўжды, — кажа Мікалай Сянько пра свой штодзённы клопат. Яго сялянская гаспадарка з'явілася на Валожыншчыне нядаўна. Да гэтага Мікалай вучыўся ў ваенным вучылішчы, быў афіцэрам Савецкай Арміі. Але мара пра самастойную працу на зямлі з часам узяла верх, і малады лейтэнант вярнуўся на радзіму, стаў хлебаробам. На зямлю яму пакуль што не надта пашанцавала: далі ўсяго 11 гектараў, ды і тыя з няўдобіц. Цяпер уся плошча старанна апрацавана, засеяна бульбай, ячменем, грэчкай. Сярод набытай тэхнікі ёсць і вайсковая — набылі спісаную.**

**У гэтым факце свая сімволіка: з расійскіх прастораў вярнуўся хлапец на роднае поле, да дзедавай хаты, і тая тэхніка, што служыла раней салдату, цяпер працуе на хлебароба.**

**Як гаворыць Мікалай, ім зроблены толькі першыя крокі. Трэба будаваць базу для трактараў і машын. На гэту патрэбу ў раёне абяцаюць перадаць выпрацаваны кар'ер. Трэба пагаспадарску распарадзіцца старой сажалкай каля дзедавай хаты (там жа на дне такія выдатныя ўгнаенні, а пачысціш сажалку — і рыбу развядзеш!). А яшчэ прадумаць, як найбольш эфектыўна разводзіць прыгажуноў-трусоў, якія прыжыліся ў старым хляве. Падмацаваць жа ўсе задумкі крэдытам у банку — грошы ой як патрэбны маладой гаспадарцы.**

**— Можа таму ладзіцца справа, што ёсць добры дарадчык? — пытаюся ў Мікалая, маючы на ўвазе яго 90-гадовага дзеда Івана Герасімавіча.**

**— Безумоўна, — адказвае малады фермер і з гонарам падкрэслівае: у якой-небудзь справе на падворку з маім дзядулем не кожны малады паспрачацца здолее.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

### ПІКЕТАВАННЕ МЗС НЕ АДБЫЛОСЯ

Спробу пікетавання Міністэрства замежных спраў Беларусі ажыццявілі 15 чэрвеня прадстаўнікі Усебеларускага славянскага сабора, Хрысціянска-дэмакратычнага саюза, Ліберальна-дэмакратычнай партыі, Клуба камуністаў, рада маладзёжных арганізацый рэспублікі.

— Мэта акцыі, — заявіў карэспандэнту БЕЛТА каардынатар ініцыятыўнай групы Усебеларускага славянскага сабора доктар юрыдычных навук Іван Кучароў, — выступіць у абарону народаў Сербіі і Чарнагорыі, а таксама з патрабаваннем прызнаць Прыднястроўскую рэспубліку.

Аднак пікетаванне было забаронена гарадскімі ўладамі, таму што яго арганізатары не падалі ва ўстаноўлены тэрмін заяўку на яго правядзенне. Удзельнікі пікетавання маюць намер паўтарыць акцыю, атрымаўшы ў Мінгарвыканкоме афіцыяльны дазвол.

(БЕЛТА).

### Не хапае толькі алімпійскага медаля

Пінчанка Ірына Леанчук атрымала афіцыяльнае запрашэнне на ўдзел у Алімпійскіх гульнях. Незвычайны лёс спартсменкі. Яна нарадзілася інвалідам (без левай кісці), але гэта не перашкодзіла ёй актыўна займацца спортам — лёгкай атлетыкай. Прычым Леанчук паказвае высокія вынікі і ў бегу на кароткія дыстанцыі, і ў скачках у вышыню і даўжыню, і ў кіданні кап'я. Імя Ірыны добра ведаюць не толькі ў Беларусі. Яна — пераможца чэмпіяната былога СССР сярод інвалідаў, заваявала чатыры вышэйшыя ўзнагароды на адкрытым чэмпіянаце ЗША. Некалькі дзён назад Ірына перамагла на адборачных спаборніцтвах спартсменаў краін СНД у Бранску, і заваявала права прадстаўляць Садружнасць у Барселоне на перадалімпійскіх гульнях, якія традыцыйна праводзяцца для інвалідаў. У яе калекцыі — 20 медалёў вышэйшай пробы — пакуль што не хапае алімпійскай узнагароды.

### Па конях!

ГРОДНА (**Б. Пракопчык**). Ва ўмовах дэфіцыту на аўтамабілі і гаручае многіх у рэспубліцы, магчыма, зацікавіць пачынанне гродзенскай міліцыі. А пачалося з таго, што дзесяць неабыякавых да коней міліцыянераў прайшлі ўрокі верхавой язды ў конна-спартыўнай школе калгаса «Камунар» Навагрудскага раёна. Да таго ж, гэта гаспадарка зрабіла ўпраўленню ўнутраных спраў вельмі каштоўны па сённяшнім часе падарунак — перадала двух пародзістых коней. Падзяліліся з міліцыяй коньмі таксама калгасы імя Леніна, «Суботнікі» і «Трабы» Іўеўскага, эксперыментальная база «Ніва» Лідскага раёна.

І вось у абласным цэнтры на дзяжурства па ахове грамадскага парадку ўпершыню выйшаў конны патруль. Яго маршруты пралягаюць па ўскраінах горада над Нёманам, навакольных дачных масівах, будаўнічых пляцоўках, месцах масавага адпачынку.

## Зноў вакол рэферэндуму

**Як паведамлялася, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі прыняў рашэнне уключыць пытанне аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў праект парадку дня чарговай сесіі Вярхоўнага Савета.**

**Разам з тым у апошні час у друку паяўляюцца публікацыі, у якіх іх аўтары бачаць у гэтым рашэнні парушэнне Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь».**

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета папрасіла пракаменціраваць сітуацыю.**

**І. ЛІХАЧ сакратар Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь:**

— Наша камісія завяршыла першы этап сваёй работы — дакументы і заключэнне аб выніках праверкі падпісных лістоў рэспубліканскага рэферэндуму перададзены ў Вярхоўны Савет. Цалкам абгрунтаваным і лагічным можна лічыць рашэнне Прэзідыума прапанаваць народным дэпутатам разгледзець пытанне аб правядзенні рэферэндуму на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Лічу, што яно поўнасцю адпавядае Закону «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь». І ў камісіі няма прычын пратэставаць супраць гэтага.

Сцвярджэнне, што Вярхоўны Савет павінен толькі назначыць дату правядзення рэферэндуму, — няправільнае. Закон аб рэферэндуме не звужае канстытуцыйна замацаваныя за парламентам правы. Вярхоўны Савет можа не толькі адхіліць або зацвердзіць фармулёўку пастаўленага на рэферэндум пытання для далейшага яго ўключэння ў бюлетэнь, але і ўдакладніць яе. Больш таго, артыкул 14 Закона аб рэферэндуме вызначае права Вярхоўнага Савета прыняць закон або іншае рашэнне, прапануемае на рэферэндум, без яго правядзення.

**У. ЛЕЎЧЫК, старшыня Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнай будове:**

— Лічу, што рашэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі само па сабе дэмакратычнае і паслядоўнае. Пытанне аб рэферэндуме будзе вынесена на чарговую сесію, як гэта і прадугледжана законам.

Так, у членаў Прэзідыума былі сумненні ў правамоцнасці прапанаванага Цэнтральнай камісіяй па рэферэндуму заключэння. І справа не ў тым, што Вярхоўны Савет нібыта «ўцякае ад рэферэндуму». У нас ёсць шэраг сур'ёзных прэтэнзій да камісіі. Па-першае, некарэктна сфармулявана пытанне, якое прапануецца вынесці на ўсенароднае галасаванне. Лічу, што члены Цэнтральнай выбарчай камісіі паддаліся націску і праігнаравалі заключэнні дзвюх камісій Вярхоўнага Савета, якія ўказваюць на мнагазначнасць фармулёўкі. Па-другое, дапушчана непатрабавальнасць да правільнасці афармлення падпісных лістоў. Але ўсё ж на пасяджэнні Прэзідыума было вырашана абараніць правы ініцыятараў рэферэндуму. Галоўным стаў аргумент, што волевыяўленне тысяч людзей, якія падтрымалі ініцыятыўную групу, трэба паважаць. Іншая справа, што Вярхоўны Савет можа і павінен выправіць памылкі, дапушчаныя Цэнтральнай камісіяй.

Згодна з Законам аб народным галасаванні, Вярхоўны Савет можа прымаць рашэнне аб характары рэферэндуму — кансультатыўны або абавязковы, аб фармулёўцы пытання, выносімага на галасаванне, аб тэрмінах правядзення рэферэндуму і г. д. Дарэчы, да нас у камісію паступаюць прапановы ад дэмакратычных партый, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы, дадаткова вынесці на рэферэндум пытанне аб увядзенні ў Беларусі прэзідэнцкага кіравання. Магчыма, гэтыя прапановы таксама будуць разгледжаны чарговай сесіяй.

Нам усім трэба вучыцца паважаць законы. Палітыкі, якія ставяць сябе ў выключнае становішча, манапалізуюць права на ісціну і трактуюць закон так, як ім выгадна, даюць дрэнны ўрок. Ці варта тады скардзіцца на нізкую самасвядомасць народа, узровень жа палітычнай культуры народных дэпутатаў мае на людзей прамы ўплыў.

**Р. ВАСІЛЕВІЧ, загадчык аддзела па пытаннях заканадаўства і правапарадку Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:**

— Я за магчымасць правядзення рэферэндуму па пытанню аб спыненні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета (гэтага склікання або любога іншага). Больш таго, думаю, што такое права павінна быць замацавана ў новай Канстытуцыі, таму што яно грунтуецца на ідэі народнага суверэнітэту. Пры гэтым хацеў бы заўважыць, што ў краінах, дзе ў большай ступені ганарацца гарантыямі правоў сваіх грамадзян, на такі «ўзровень» дэмакратыі не рашыліся. Трэба таксама ўлічваць, што, згодна з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце, акце, які мае вышэйшую юрыдычную сілу нават у адносінах да Канстытуцыі, ад імя ўсяго народа можа выступаць толькі Вярхоўны Савет, і ніякая група грамадзян не можа аказваць на яго націск. Што ж датычыць парадку склікання чарговых і нечарговых сесій вышэйшага органа дзяржаўнай улады рэспублікі, то ён дастаткова дакладна вызначаны ў Канстытуцыі і Часовым рэгламенце Вярхоўнага Савета рэспублікі.

### БІЛЕТ № 000001

Як паведаміў Цэнтральны камітэт Саюза моладзі Беларусі, у музейную групу пры ЦК СМБ перададзены членскі білет гэтай маладзёжнай арганізацыі пад № 000001. А вучаніца СШ № 56 г. Гомеля Ліза Баравікова атрымала білет СМБ № 000002. На білеце няма былой камсамольскай сімволікі, у ім не трэба будзе адзначаць плату членскіх узносаў. Усяго з пачатку года ў СМБ уступіла больш за 1.000 чалавек, у асноўным школьнікі. Паступова па ўсёй Беларусі пройдзе перарэгістрацыя членаў былога ЛКСМБ, і тыя, хто вырашыць застацца ў новай маладзёжнай арганізацыі, таксама атрымаюць білеты.

